№№33–34 (3572–3573)

28 лютага 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СІТУАЦЫЯ

## Сценка на сценку?

Супраць стваральнікаў незалежнага прафсаюза на "Граніце" задзейнічалі пракуратуру. Падпісантаў заявы аб намеры правесці папераджальны страйк на прадпрыемстве пракурор папярэдзіў аб адказнасці. Людзям пагражаюць негатыўнымі наступствамі.

"Народная Воля" распавядала, што 20 лютага стваральнікі пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюза накіравалі на імя выканаўцы абавязкаў дырэктара "Граніта" **Эдуарда Гаўрылковіча** заяву, у якой патрабавалі неадкладна спыніць дыскрымінацыю па прафсаюзнай прыкмеце, аднавіць на працы звольненых Алега Стахаевіча і Людмілу Літвінка, а таксама неадкладна выдзеліць памяшканне для пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюза, бо гэта неабходна для яе афіцыйнай рэгістрацыі. У заяве былі пералічаны прозвішчы службовых асоб прадпрыемства, чые "незаконныя дзеянні", на думку рабочых, *"ганьбяць рэпутацыю РУВП „Граніт" як унутры краіны, так і за яе межамі, што можа выклікаць увядзенне санкцый у дачыненні да прадпрыемства (абмежаванне рэалізацыі прадукцыі на знешніх рынках) і адбіцца на сацыяльна-эканамічным становішчы ўсяго працоўнага калектыву".* Рабочыя папярэдзілі, што ў выпадку невыканання патрабаванняў *"будзе праведзена папераджальная забастоўка з поўным спыненнем вытворчасці і спыненнем адгрузкі гатовай прадукцыі",* а адказнасць за гэта *"будзе ляжаць на вышэйпералічаных службовых асобах".*

Заяву рабочыя накіравалі пасля таго, як пасля масавага сыходу рабочых з афіцыйнага прафсаюза ў незалежны адміністрацыя адмовілася прадаставіць памяшканне, неабходнае для рэгістрацыі пярвічнай арганізацыі. Пры гэтым на рабочых ціснулі, а "лідара бунтароў" Алега Стахаевіча і ўвогуле звольнілі з працы.

Тым не менш заяву рабочых уважліва прачыталі ў "кампетэнтных кабінетах". Як паведаміў старшыня незалежнага прафсаюза гарнякоў **Мікалай Зімін,** людзей, якія паставілі свае подпісы (усяго іх было 28), аб незаконнасці правядзення страйка ўжо папярэдзіў прадстаўнік пракуратуры. Ён давёў ім, што будуць зроблены высновы. Але рабочыя не сталі адклікаць свае подпісы пад заявай.



Днямі Мікалай Зімін атрымаў ліст ад адміністрацыі "Граніта". Кіраўніцтва прадпрыемства ў чарговы раз адмовіла ў прадастаўленні памяшкання для незалежнага прафсаюза. *"Атрымаў фармальную адпіску,* — расказаў Мікалай Зімін "Народнай Волі". — *Праблема ў тым, што, згодна з законам, адміністрацыя прадпрыемства не абавязана даваць памяшканне. Увогуле, юрыдычна тут няма нейкага канкрэтнага шляху. Гэта недапрацоўка заканадаўства. Мы і ў Мінюст звярталіся па гэтым пытанні. Але там кажуць, што няма ніякай неабходнасці пераглядаць пакет дакументаў. Гэта тупіковая сітуацыя. А адміністрацыя прадпрыемства гэтым карыстаецца і марудзіць справу".*

Звольнены з працы Алег Стахаевіч, якога пазбавілі праў кіроўцы на шэсць месяцаў за тое, што ён нібыта не прапусціў пешахода на пераходзе, учора сустракаўся з рабочымі, якія ствараюць пярвічную арганізацыю незалежнага прафсаюза. Ён запэўніў "Народную Волю": *"Самы касцяк рабочых трымаецца, і ніякімі пагрозамі іх не запалохаць. Як бы адміністрацыя ні спрабавала ціснуць на самых актыўных, гэта робіцца відавочным і толькі яшчэ больш абурае людзей".*

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## Спіс неўязных беларускіх чыноўнікаў пашырыўся

Канкрэтныя прозвішчы пакуль не агучаны. Учора на момант здачы "Народнай Волі" ў друк пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў краін ЕС у Брусэлі, на якім праходзіла абмеркаванне пытання аб пашырэнні санкцый, яшчэ працягвалася.

— *Папярэдне вядома, што ў спісе 21 чалавек, сярод іх 19 супрацоўнікаў судовай сістэмы Беларусі і два міліцэйскія чыноўнікі, адказныя за парушэнні правоў чалавека ў Беларусі,* — паведаміў з Брусэля журналіст Аляксандр Сіліч. — *Спрэчка разгарнулася вакол прыбліжанага да атачэння Лукашэнкі бізнесмена Юрыя Чыжа, які фігураваў у спісе. Супраць санкцый у дачыненні да Чыжа выступіла Славенія, якая мае з яго кампаніяй "Трайпл" супольныя камерцыйныя інтарэсы. А Польшча, наадварот, катэгарычна выказалася за ўключэнне Чыжа ў спіс. Прадстаўнікі Варшавы матывавалі сваю пазіцыю тым, што калі не ўключыць Чыжа, то рэжым Лукашэнкі атрымае ўмоўную перамогу над Еўрасаюзам.*

*Аднак прозвішча Чыжа ў спіс усё ж такі ўключана не было.*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

**P.S**

***Спіс тых, хто на гэты раз апынуўся ў ліку неўязных у Еўрапейскі Саюз, будзе надрукаваны ў наступным нумары "Народнай Волі".***

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

## Паралич

Сейчас всех занимает скандал с "ЕвроФестом" и перетряхивание грязного белья шоу-бизнеса, но на этом фоне абсолютно незамеченным осталось публичное развенчание другого мифа — о методах управления в нашем государстве.

Мы много лет слышим, что касты неприкасаемых в Беларуси нет; что соответствующие органы и службы всегда начеку, всегда бдят; что забота о человеке труда, о его безопасности — главная задача высокооплачиваемой армии слуг народа... Официально озвучиваемый перечень заслуг государства можно продолжать долго, но лучше перейти к конкретным примерам.

На прошлой неделе в Пинске закончились судебные слушания по делу о пожаре на заводе "Пинскдрев". В день трагедии два человека погибли на месте, 12 позже скончались в больницах, пятеро остались инвалидами... И только потому, что на алтарь планов-показателей-денег были принесены человеческие жертвы, всплыли некоторые подробности о методах управления одним из лучших белорусских предприятий. Директор которого, как и положено, был почетным гражданином, орденоносцем, человеком уважаемым и авторитетным. Если хотите, он в Пинске был богом, на которого молились. Он заседал в президиумах, мудро взирал с Доски почета, ездил на Всебелорусские собрания... И творил в своей вотчине что хотел.

Производство пеллет — это очень выгодный бизнес, по сути, деньги из мусора. Опилки, щепки и всякие прочие отходы деревообработки прессуются во вполне себе недешевые топливные брикетики, весьма популярные в Европе. На предприятии "Пинскдрев-ДСП" установили две такие линии. Правда, как выяснилось, установили без всякой проектной документации, и акт приемки этого сомнительного оборудования подписать никто из ответственных товарищей не осмелился. То есть запустили производство, которое просто не должно и не могло быть запущено.

Вот если вы сделаете ремонт в квартире и чуть в сторону дверь сдвинете — так не отобьетесь от всяческих комиссий и проверок, которые будут требовать согласования этого переноса вплоть до сантиметра. Из-за самовольно застекленного балкона и даже несогласованного кондиционера наши контролеры всегда готовы наказать штрафом, если в офисе макулатура лишняя скопилась — пожарники тоже прибегут наказывать рублем. А тут без всяких документов работало опасное производство, на котором, рискуя жизнью, работали люди. И никому никакого дела до всего этого не было.

Вторая линия по выпуску этих злополучных пеллет на "Пинскдреве" вообще была установлена без каких-либо согласований с пожарниками и санстанцией. При этом, как показала прокурорская проверка, трагедии, случившейся 25 октября 2010 года, предшествовали неоднократные возгорания. Почти год, едва ли не каждый месяц, там случались ЧП, когда что-то дымило и искрило. То есть не вдруг на "Пинскдреве" случился пожар, унесший жизни людей. И не случайной была эта трагедия. Но никто и пальцем не пошевелил, чтобы остановить это безобразие. Наоборот, и планы доводились, и показатели всяческие с учетом этой, незаконно работающей и просто опасной, линии.

Вот такая позорная история выявилась в Пинске: строчить отчеты, сверять показатели, считать прибыль "вертикаль власти" сумела, а вот подумать о безопасности людей в системе государственного управления оказалось некому. В нашем сильном государстве, которое контролирует, всё и всех, не сработал ни один механизм, способный предотвратить трагедию.

Как могло случиться, что при огромном количестве контролирующих и проверяющих на "Пинскдрев" было поставлено непонятное, неработающее и даже опасное оборудование? Почему поставщик не понес никакой ответственности и предприятие никому не предъявляло претензий? Может быть, это происки злобного Запада, который не знает, как насолить маленькой, но гордой Беларуси?

Естественно, никаких козней мировой закулисы не было и в помине. Все оказалось очень по-нашему и очень банально. Просто оборудование поставлялось через дочь гендиректора холдинга "Пинскдрев" Лорана Аринича. Ну разве папа будет судиться с дочкой или предъявлять какие-то претензии?

Но ведь есть профсоюз, есть местная власть, есть всякие надзорные инстанции. Их-то какой паралич разбил, почему ничего не знали, не видели, не предпринимали?

А вот это и есть созданная система управления, которая работает с учетом наличия в стране касты неприкасаемых. Потому что все были в курсе происходящего на "Пинскдреве". Например, в суде зачитывались выдержки из докладной записки Совета безопасности, из которой присутствующие с удивлением узнали, что, по сведениям Совбеза, среди коллег-директоров Лоран Аринич характеризуется как авторитарный руководитель. Среди подчиненных — как самодур, который держит рабочих на низкой зарплате, заставляет работать сверхурочно, в выходные и праздники, даже не спрашивая согласия. А если возмутился — то пошел вон, в Пинске не так много мест, где можно найти работу. Совбез констатировал, что руководство холдинга "Пинскдрев" постоянно игнорировало предписания контролирующих органов, в том числе — Государственного пожарного надзора.

Откуда такая смелость? Совбез дал ответ и на этот вопрос: "Лоран Аринич был убежден в своей безнаказанности в связи с наличием влиятельных связей в различных государственных органах".

Последнее — чистая правда: покровители у Аринича нашлись. Причем настолько влиятельные, что уже после трагедии выпустили главного обвиняемого и из страны, и из-под уголовного дела. Сегодня на скамье подсудимых — стрелочники. И почему-то Александр Лукашенко не созывает по этому поводу совещаний, не топает ногами, не говорит о справедливости. По непонятной логике, куда важнее оказалось разобраться с тем, кто кому покровительствовал в отборе на "Евровидение".

А кто таким Ариничам покровительствует, разобраться слабо? Кто прикрывает директоров-самодуров, которые держат людей на голодном пайке, а сами в это время красоток-певичек спонсируют? Кто довел людей до состояния бесправных рабов, которые, выходя на работу, рискуют жизнью и даже пожаловаться кому-либо боятся?

Судя по тому, что все — и госСМИ, и чиновники — старательно не замечают темы "Пинскдрева", на эти сферы понятие справедливости в современной Беларуси не распространяется. Паралич...

## Мікалай Статкевіч узнагароджаны прэміяй імя Юрыя Захаранкі

*Узнагарода прысуджана "за мужнасць, за гонар, за самаахвярнасць".*

Экс-кандыдат у прэзідэнты ўжо больш за год знаходзіцца за кратамі. Прэмію жонцы палітыка Марыне Адамовіч уручыў сустаршыня аргкамітэта Рэспубліканскага руху ветэранаў баявых дзеянняў "Абаронцы Айчыны" Алег Волчак.

— Статкевіч стаяў ля вытокаў сучаснай беларускай арміі, — адзначыў Алег Волчак. — Ён адзін са стваральнікаў Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Некаторыя з былых паплечнікаў сышлі ва ўладу, а Мікалай Статкевіч застаўся верны справе. Для Статкевіча сапраўды "Радзіма вышэй за ўсё!". Статкевіч не толькі ідэал беларускага афіцэра, але і ўзор беларускага мужчыны. Таму мы і вырашылі падтрымаць яго маральна.

Прэмія імя Юрыя Захаранкі "З адкрытым забралам" уручаецца з 2005 года.

## Вясна прыйдзе ў другой палове сакавіка

Такі прагноз робяць беларускія сіноптыкі. *"Па-сапраўднаму веснавыя працэсы варта чакаць толькі ў другой палове сакавіка",* — паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Паводле слоў спецыяліста, тэмпературны фон у сакавіку будзе знаходзіцца *"блізу кліматычнай нормы — ад мінус 3°С да плюс 1°С, колькасць ападкаў таксама мяркуецца ў межах сярэдніх значэнняў".*

*"Прынамсі, у першай палове сакавіка хуткай і бурнай вясны не будзе. Чакаецца няўстойлівы характар надвор'я, ноччу ў большасці раёнаў Беларусі — слабаадмоўныя тэмпературы, пры паступленні больш халоднага паветра тэмпература будзе ноччу апускацца па поўначы да мінус 10—13°С, днём у асноўным слабастаноўчая тэмпература паветра",* — сказаў Рабаў.

*Аляксандр КЛАСКОЎСКІ*



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

# Каланіяльныя мазгі

Днямі БЕЛТА парадавала навіной, што ў Крычаве можна згуляць вяселле ў стылі XVIII стагоддзя. *"Тэатралізацыю ўрачыстай дзеі ў аднoўленым палацы князя Пацёмкіна падрыхтавалі супрацоўнікі раённага Дома культуры. У раскошных залах маладых і гасцей прымаюць імператрыца Кацярына II і князь Грыгорый Пацёмкін",* — інфармуе ўрадавае агенцтва. А кабета з райвыканкама радасна паведаміла карэспандэнту, што на новую платную паслугу пасыпаліся заяўкі *"не толькі з Крычава, але і з Магілёва".*

Не здзіўлюся, калі на экзотыку як мухі на мёд стануць злятацца і расійцы з тоўстымі гаманцамі. Гэта ж крута — адчуць сябе зноў на тутэйшай зямлі панамі, велічнымі гаспадарамі сярод паслужлівых тубыльцаў!

Ва ўрадавым інфармацыйным агенцтве, мусіць, думаюць, што распаўсюджваюць такім чынам перадавы досвед: во як можна і дзяжурны загсаўскі рытуал гламурным зрабіць, і бабак для казны скасіць у нялёгкі перыяд выхаду краіны з крызісу!

І нікому не цюкнула ў галаву, што славутая распустай Кацярына II, гэтая "секс-бомба расійскага трона", на пару з адным са сваіх шматлікіх палюбоўнікаў — мякка кажучы, не лепшы маральны ўзор для тых, хто бярэцца шлюбам. Гэта тое самае, што святкаваць вяселле ў бардэлі.

Але яшчэ горай, што тут патыхае і бардэлем палітычным. Менавіта пры Кацярыне II беларускія землі былі далучаны да Расійскай імперыі, а генералісімус Суворaў заліў наш край крывёю, душачы паўстанне Касцюшкі. Пачалася эпоха русіфікацыі, наш край на два стагоддзі трапіў у кіпцюры дзвюхгаловага арла. Такім чынам, Кацярына II — сімвал гвалту над Беларуссю. І тут гаворка ўжо не проста аб правінцыйнай безгустоўнасці, а аб здзеку з каштоўнасцяў незалежнай дзяржавы.

На жаль, крычаўскі прыклад не ўнікальны. Так, летась на "Дажынках" у Маладзечне рэстаран "Імператрыца" Лагойскага райспажыўтаварыства запрашаў "акунуцца ў перыяд, калі Кацярыне II пашчасціла здзейсніць мару расійскіх цароў і захапіць тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага (у тым ліку і Беларусь)".

Калі коратка, то тут мы маем справу з красамоўным сіндромам каланіяльнага мыслення. Ужо болей за два дзесяцігоддзі прайшло, як Масква перастала быць для беларусаў сталіцай, а духоўнае рабства, васальная псіхалогія, нізкапаклонства перад "старэйшым братам" шмат каго трымаюць у палоне.

Для носьбітаў каланіяльнага менталітэту расійская папса — "отечественная музыка" (такія шыльдачкі можна пабачыць у крамах, што гандлююць аўдыёдыскамі). Малпуючы ўсходніх суседзяў, хто-кольвек з тутэйшых чапляе на антэну легкавіка георгіеўскую стужку — сімвал імперыі. Прыкметы ментальнай прывязкі да былой метраполіі — скрозь.

Зрэшты, а дзе і як адукавацца ў нацыянальным плане жыхарам Сінявокай? Са школьных падручнікаў на загад з самага верху выветрылі "нацыяналістычны дух". Трэба прыкласці высілкі, каб знайсці бліскучыя гістарычныя кнігі Сагановіча, Арлова. Беларушчына загнана ў андэграўнд, зведзена да ўзроўню лубка. Расійшчынай жа тутэйшага абывацеля кормяць на кожным кроку так, што аж з вушэй лезе. Чаго хацець, калі самы вялікі начальнік сінявокай Беларусі перыядычна даводзіць, што яе насельнікі — "рускія са знакам якасці"!

Чыноўнікі ж рады старацца. Няма помнікаў нацыянальным героям, але ставяць статую палкаводца Жукава, для якога беларусы былі толькі гарматным мясам. Манкуртызаваныя службоўцы з пенай на вуснах абараняюць шыльду сувораўскай вучэльні (у якой нармальнай краіне будучых афіцэраў сталі б выхоўваць на прыкладзе чужаземнага крывавага заваёўніка?). Набліжаныя да ўлады публіцысты абвяшчаюць расійскага генерал-губернатара Мураўёва (таго самага, "вешальніка") таленавітым адміністратарам.

І гэта зусім не бяскрыўдныя рэчы. Неразвітая нацыянальная свядомасць, гістарычная каша ў галовах беларусаў — спрыяльная глеба для паўзучай расійскай экспансіі. Як толькі Масква зноў падкінула трохі пернікаў, у масавай свядомасці беларусаў пачаўся рэнесанс прарасійскіх настрояў.

Паводле даследаванняў НІСЭПД, у снежні 2011 года пры адказе на пытанне "Калі б давялося выбіраць між аб'яднаннем з Расіяй і ўступленнем у Еўрасаюз, што б вы выбралі?" — лік аказаўся 41,4% супраць 39,1% на карысць вяртання ў імперыю. Між тым яшчэ ў сакавіку летась суадносіны былі 31,5% супраць 50,5% на карысць Еўропы. Вось вам вынік таго, што, з аднаго боку, беларускі рэжым спаліў масты ў дачыненнях з Захадам, а з другога — Расія стала праплачваць запаўзанне Сінявокай у пастку Еўразійскага саюза.

Думаеце, выпадкова Пуцін загадаў удвая падняць заробкі персаналу выкупленага "Газпромам" "Белтрансгаза"? Меседж празрысты: у імперыі ўсім будзе сытна! Як ні сумна, але чыннік матэрыяльнага дабрабыту, згодна са звесткамі таго ж НІСЭПД, у свядомасці беларусаў пераважвае каштоўнасць незалежнасці. Інакш кажучы, кілбаса важнейшая за суверэнітэт.

У такой хісткай постімперскай сітуацыі нармальная, адказная ўлада мусіла б усяляк развіваць нацыянальную свядомасць, мацаваць еўрапейскі вектар замежнай палітыкі. Але рэжым, пасабачыўшыся з Еўропай ды апусціўшы ніжэй за калена эканоміку і фінансы, не прыдумаў нічога іншага, як яшчэ горай ублытацца ў расійскую даўгавую пятлю. Зашморгнуць жа яе — справа часу і тэхнікі. Расійскі пасол Сурыкаў нядаўна папярэдзіў: яшчэ адзін крызіс — і ў вас не застанецца выйсця, акрамя пераходу на расійскі рубель. А гэта — ціхі капец суверэнітэту.

Вось такім можа быць фінал бяздарнай палітыкі цяперашняга рэжыму з ягонымі каланіяльнымі мазгамі. І тады Крэмль паспрабуе давяршыць справу Кацярыны II — па-новаму ўсталяваць на нашых землях панаванне дзвюхгаловага арла.

Нам гэта трэба?

SOS!

## Неадэкватны прыгавор

*Лёс віцебскага актывіста КХП—БНФ Сяргея Каваленкі, які трапіў пад прэс праваахоўнікаў за тое, што ў студзені 2010 года вывесіў на навагодняй ёлцы бел-чырвона-белы сцяг, вырашыўся за чатыры дні. Суддзя Алена Жук прызнала Сяргея Каваленку вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання ва ўмовах так званай "хіміі" і прысудзіла яму чарговае пакаранне — 2 гады і 1 месяц калоніі агульнага рэжыму.*

*З улікам часу, адбытага Каваленкам у віцебскім СІЗА, актывісту належыць адбыць у зняволенні 1 год і 11 месяцаў.*

Жонка Сяргея — Алена — усе чатыры дні, пакуль ішоў працэс, намагалася толькі аднаго: аб'ектыўнага медыцынскага агляду мужа. У суд прыязджалі некалькі брыгад "хуткай дапамогі", прычым вынікі медыцынскага агляду Сяргея былі супярэчлівыя. Урачы адной брыгады былі ўпэўнены, што ўсе медыцынскія паказчыкі падсуднага ў норме, а другая брыгада настойвала на тэрміновай шпіталізацыі Каваленкі. У выніку справа дайшла да трагічнага абсурду: чарговая спроба Алены Каваленка выклікаць брыгаду "хуткай дапамогі" скончылася тым, што на другім канцы тэлефоннага провада адказалі: "Медыкі не паедуць. Ёсць загад ехаць у суд да Каваленкі толькі тады, калі дактароў выкліча суддзя..." Хто і чаму аддаў такі загад — невядома. Але было відавочна, што суд спяшаўся. Даходзіла да таго, што пасяджэнні праходзілі без перапынку і нават абед канвою падвозілі да будынка суда на спецыяльных машынах.

Пасля вынясення прысуду Сяргею Каваленку ягоная жонка Алена ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" сказала: *"Тое, што адбывалася на судзе, і канчатковы прысуд — гэта самы сапраўдны жах. Да апошняга моманту я спадзявалася, малілася... Не было там за што даваць мужу турэмны тэрмін!.. Але самае балючае ва ўсім гэтым — што я не ведаю, як сказаць пра прысуд нашаму сыну, сямігадоваму Валянціну... Ён вельмі падаўлены псіхалагічна з-за таго, што адбываецца з бацькам. Сын ведае, што тата ў турме, але верыць, што ён хутка вернецца дадому... І я не ведаю, як сказаць яму праўду".*

Сёння Алена Каваленка наведае свайго мужа ў СІЗА — ёй дазволілі спатканне. *"Наколькі мне паведамілі ўрачы ў СІЗА, Сяргей па-ранейшаму трымае галадоўку,* — гаворыць яна. — *Але ваду ўсё ж такі п'е. Буду спрабаваць угаварыць яго адмовіцца ад галадоўкі. Дзеля сябе, мяне і дзяцей".*

Тым часам адвакаты Сяргея Каваленкі збіраюцца абскарджваць прысуд суда Першамайскага раёна Віцебска. Кіраўнік праваабарончай арганізацыі "Беларускі Хельсінкскі камітэт" Алег Гулак увогуле заявіў, што гэты прыгавор *"нельга назваць адэкватным".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ХОТИТЕ — ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ — НЕТ

## Сорвали план покушения на Путина?

Если верить вчерашнему сообщению Первого государственного телеканала "Россия", то спецслужбы Украины и России сорвали планы террористов, готовивших покушение на Владимира Путина. В Одессе якобы схвачены "бандиты", находившиеся в международном розыске. Из их показаний стало известно, что привести в исполнение преступный замысел они собирались в Москве сразу после президентских выборов, назначенных на 4 марта.

По данным Службы безопасности Украины, в ходе спецоперации 4 февраля был пойман 31-летний уроженец Чечни Адам Осмаев. Отмечается, что, скрываясь от следствия, он и его подельники часто меняли внешность и место проживания. В Одессе на съемной квартире преступники занимались изготовлением взрывчатки, в результате чего 4 января произошел взрыв, в ходе которого погиб один из преступников, 26-летний Руслан Мадаев, а 28-летний гражданин Казахстана Илья Пьянзин с ожогами попал в реанимацию. Затем он дал показания о подготовке терактов на территории России.

Судя по показаниям выжившего Ильи Пьянзина, они вместе с погибшим Русланом Мадаевым прилетели из Арабских Эмиратов через Турцию с четкими инструкциями от представителей Доку Умарова.

Первый канал продемонстрировал кадры допроса Пьянзина. *"Они сказали, что для начала поедете в Одессу. Научитесь там изготавливать (бомбы). А потом уже дальше, в Москве, будете делать диверсии на экономических объектах. В дальнейшем — покушение на Путина..."*

**Сергей ИВАНОВ.**

БОЛЬ

Наталья РАДИНА



# Быть людьми

*Самое страшное, что на 18-м году диктатуры политзаключенные превратились для нас в инфоповод или предмет торговли, но перестали быть живыми людьми.*

Удивительно, но только Дмитрий Дашкевич, вот уже более года находящийся в нечеловеческих условиях тюрьмы, сам подвергающийся пыткам, смог найти в себе нравственные силы, чтобы абсолютно точно понять, что случилось с Андреем Санниковым.

*“Подписав прошение о помиловании, Санников сделал единственно правильный и возможный поступок в той ситуации, в которой он находится. При всем моем уважении к Уссу и другим мужественным людям, которые пострадали от преследования за “выборы”-2010, они не испытали и 1/10 части того насилия, физического и морального издевательства, которые испытал Андрей Олегович. Вдобавок ко всему этому существует реальная угроза жизни и здоровью его семьи. При таких обстоятельствах любой был бы обязан всеми мыслимыми средствами защищать своих родных.*

*И если бы ко мне пришел кто-то и прямо или намеками угрожал любимым людям — я бы подписал все что угодно, в том числе и про ведро с крысами, и про вагон с арматурой. В Беларуси нет политика, который прошел через то, через что прошел Санников, и, соответственно, нет ни одного человека, который имел бы хотя бы минимальное право его осуждать”,* — написал из Глубокской колонии Дмитрий Дашкевич.

Да, в первые дни после пресс-конференции Ирины Халип большинство людей поддержали Санникова. Но нашлось несколько дураков или максималистов (по диагнозу психиатра Щигельского), у которых, несмотря на свой тюремный опыт, не хватило даже фантазии представить, каким издевательствам подвергаются их товарищи. А некоторые независимые СМИ, радостно потирая руки, стали дарить им информационные площадки, организовывать онлайн-конференции, чтобы те смогли поупражняться в пустом и неуместном морализаторстве. И вот сегодня мы видим заголовки “Дашкевич оправдывает Санникова”.

Оправдывает перед кем? Перед теми, из-за кого Санников, Бондаренко, Беляцкий, Дашкевич, Статкевич и Лобов продолжают сидеть в тюрьмах? Перед нами — сидящими сегодня за компьютером в своих теплых квартирах и офисах и читающими эти строки, попивая кофе?

Да, нам трудно представить себя на месте человека, которого семь раз перебрасывали из одной тюрьмы в другую под лай собак и щелканье прикладов вооруженной охраны, который больше года живет в скотских условиях, подвергаясь физическим и психологическим пыткам, которого вначале угнетали в СИЗО КГБ, затем травили в “пресс-хатах” ходящие под администрацией зэки, а затем больше трех месяцев держали в камере-одиночке, когда он не мог получить ни весточки от семьи и не знал, живы ли его близкие. А потом к нему приходят люди в штатском и очень убедительно объясняют, что жизнь его жены и сына в их руках. И в это легко поверить, потому что именно так и есть — жена сама осуждена и каждый день в дом, где она одна с маленьким сыном, приходят те самые люди в штатском.

Я не знаю, что это: черствость, короткая память, усталость от 18 лет стагнации или нездоровый цинизм. Но прошло несколько недель, и мы читаем глубокомысленные заявления политологов, “анализирующих” очередные пустопорожние обещания, какие-то предчувствия и смутные ощущения очередного европереговорщика, который, поговорив с какой-то “шестеркой” из МИД, сделал вывод, что вот-вот власти кого-то отпустят. И, конечно же, читаем мы, *“это будет Санников и Бондаренко, потому что они написали прошение о помиловании”.* И ни слова — под каким давлением, из-за каких издевательств и ценой какого страшного выбора.

И мы не бьем в колокола, хотя и Дмитрий Дашкевич, и Николай Статкевич подтвердили: даже им, испытавшим страшное, к счастью, не пришлось пройти через то, через что прошел Санников. И нас почему-то не сильно беспокоит, почему Санников по-прежнему не может звонить из колонии, почему от него нет писем и он по-прежнему не может рассказать адвокату, что с ним на самом деле происходит.

Вместо этого мы устраиваем дискуссии: а стоило ли Санникову писать прошение? Почему бы всем этим людям не организовать дискуссию на тему: почему в современной Беларуси человека пытают в тюрьме и угрожают здоровью и жизни его жены и сына? Мне кажется, это более правильная постановка вопроса. Но нам же не нужна такая дискуссия, мы к этому уже привыкли. Нам нужны громкие заголовки и “жареные” факты.

Поэтому мы читаем, что для введения международных санкций в отношении Беларуси нет оснований. Некие люди и непонятные структуры вдруг решают, что вправе распоряжаться судьбами политзаключенных, и пытаются их продавать Западу в обмен на поблажки для преступников, захвативших власть и попирающих законы человеческие и Божьи. А на тех, кто их пытается приструнить и не дать повторить те самые ошибки, которые и привели к долгим годам диктатуры, — можно подать в суд. Предлагаю сразу — в лукашенковский: уж он-то точно вынесет решение в вашу пользу.

Я очень хочу, чтобы все политзаключенные как можно скорее вышли на свободу, чтобы Гуннар Виганд с его предчувствиями не оказался очередным болгарским министром иностранных дел, успокаивающим Запад, что “вот-вот” Лукашенко сжалится и всех отпустит. Но важно понять: пока мы ждем, недоговариваем, дискутируем, морализаторствуем, торгуемся, отказываемся от действенных санкций, политзаключенные продолжают гнить в тюрьмах...

Нельзя привыкать к тому кошмару, в который превратилась наша жизнь. Живя с чудовищами, мы сами легко и незаметно можем в них превратиться. А наша задача — не только выжить и выстоять любой ценой, но и остаться людьми. Не только журналистами, политиками и политологами, но — людьми.

*charter97.org*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## У большасці беларускіх вёсак пражывае да 100 чалавек

***Цікава, колькі ў Беларусі вёсак, дзе ніхто не жыве?***

**С.Кухарчык, Мінскі раён.**

Згодна з перапісам насельніцтва 2009 года, больш за чвэрць беларусаў жывуць у сельскай мясцовасці. Але ёсць вёскі, якія апусцелі, ад іх засталіся толькі назвы і пакінутыя хаты. Такіх па апошніх афіцыйных даных — 1395. Што яшчэ цікава: у большасці вёсак (72% ад усіх населеных пунктаў у сельскай мясцовасці) пражывае да 100 чалавек. Ёсць вёскі, дзе засталося ўсяго толькі да 25 жыхароў — такіх больш за 10 тысяч. Але ёсць і вёскі што гарады, з насельніцтвам звыш 5 тысяч чалавек. Іх у Беларусі 10.



### Хто жыве ў вёсках

| | Усяго вёсак | У іх пражывае чалавек | % ад агульнай колькасці насельніцтва |
|---|---|---|---|
| Колькасць сельскіх населеных пунктаў | 23.549 | 2.439.278 | |
| **Колькасць жыхароў, у тым ліку** | **Усяго вёсак** | **У іх пражывае чалавек** | **% ад агульнай колькасці насельніцтва вёсак** |
| 10 і менш | 5843 | 30.034 | 1,2 |
| 11—25 | 4695 | 80.888 | 3,3 |
| 26—50 | 3784 | 136.914 | 5,6 |
| 51—100 | 2918 | 207.321 | 8,5 |
| 101—200 | 1894 | 268.225 | 11 |
| 201—500 | 1921 | 616.429 | 25,3 |
| 501—1000 | 797 | 537.187 | 22 |
| 1001—2000 | 233 | 318.944 | 13 |
| 2001—3000 | 42 | 102.555 | 4,2 |
| 3001—5000 | 17 | 63.142 | 2,6 |
| Звыш 5000 | 10 | 77.639 | 3,1 |

## Менш за ўсіх зарабляюць у Брэсцкай вобласці

Рэальныя заробкі беларусаў, разлічаныя з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі, у студзені 2012 года ў параўнанні са студзенем 2011 года паменшылася на 2,7%, а ў параўнанні са снежнем 2011 года — на 1,8%.

Па даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэдняя зарплата ў студзені гэтага года склала:

на прамысловых прадпрыемствах — 3 млн 360,1 тыс. рублёў,

у будаўнічых арганізацыях — 3 млн 185 тыс.,

у арганізацыях транспарту і сувязі — 3 млн 234,6 тыс.,

у сельскай гаспадарцы, палявання і лясной гаспадаркі — 1 млн 935,3 тыс.,

ва ўстановах аховы здароўя і аказання сацыяльных паслуг — 2 млн 525,7 тыс. рублёў,

у сферы фінансавай дзейнасці — 5 млн 158 тыс. рублёў.

Самымі “заможнымі” ў студзені былі мінчане, а менш за ўсіх зарабілі жыхары Брэсцкай вобласці. Па даных Нацстата, намінальная налічаная сярэдняя зарплата ў студзені склала:

у Брэсцкай вобласці — 2 млн 430,9 тыс. рублёў,

Віцебскай вобласці — 2 млн 564,7 тыс.,

Гомельскай — 2 млн 769,2 тыс.,

Гродзенскай — 2 млн 516,9 тыс.,

Мінскай — 3 млн 133 тыс.,

Магілёўскай — 2 млн 595 тыс.,

Мінску — 3 млн 654,1 тыс. рублёў.

## З іншаземцамі будзем размаўляць ноччу?

РУП “Белтэлекам” з 24 лютага павысіла на 20% тарыфы на міжнародныя тэлефонныя злучэнні і паслугі па пропуску трафіку з Расіяй, Украінай, Малдовай і Узбекістанам.

Акрамя таго, зараз ільготны тарыф за кожную поўную або няпоўную хвіліну міжнароднага тэлефоннага злучэння з усімі краінамі будзе прымяняцца з 23.00 да 6.00 у любы дзень тыдня. Раней размаўляць па льготным кошце можна было з 21 да 9 гадзін раніцы.

Змены ў РУП “Белтэлекам” патлумачылі выхадам на бясстратнасць паслуг міжнароднай тэлефоннай сувязі.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Багатыя за святло будуць плаціць больш?

*Міністр энергетыкі Беларусі **Аляксандр Азярэц** заявіў, што дыферэнцыраваная аплата электраэнергіі, якую збіраюцца ўвесці ў Беларусі, закране ў асноўным заможных беларусаў.*

*— Мы падлічылі, што 70—75% насельніцтва не панясе страт і ўвойдзе ў гэтыя ліміты, а вось плаціць больш будуць заможныя грамадзяне, якія спажываюць не па 150—250 кВтгадз. у месяц, а больш за 1000 кВтгадз. Гэта і будзе сацыяльная справядлівасць, сацыяльная роўнасць,* — цытуе міністра БЕЛТА.

Па словах міністра, дыферэнцыраваны падыход да аплаты насельніцтвам электраэнергіі плануецца ўкараніць у другой палавіне 2012 года. Пакуль вырашаецца, ад якой адзнакі спажыванне электраэнергіі будзе аплачвацца беларусамі па льготнай цане, а звыш якой — па сабекошце. Як вядома, урад прапаноўваў увесці норму спажывання на аднаго чалавека 107 кВтгадз., на двух — яшчэ плюс 30 кВтгадз., і гэтак далей на кожнага наступнага члена сям’і. Міністэрства энергетыкі гэтую ідэю раскрытыкавала і прапанавала для дома, які абсталяваны газавай плітой, устанавіць ліміт — 150 кВТгадз., а які абсталяваны электраплітой — 250 кВтгадз. у месяц. Пры гэтым колькасць тых, хто пражывае ў жылым памяшканні, у разлік прымацца не будзе. Хутчэй за ўсё на гэтай прапанове і спыняцца: яна ўнесена ў канчатковы праект, які зараз разглядаецца ва ўрадзе.

Дарэчы, Аляксандр Азярэц адзначыў, што сёння беларусы плацяць прыкладна 2,8 цэнта за 1 кВтгадз, у той час як кошт электраэнергіі, якую выпрацоўвае краіна, у сярэднім па энергасістэме складае каля 6,9—7 цэнтаў за 1 кВтгадз.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

## АЭС будзе ахоўваць спецбатальён

***Яго збіраюцца сфарміраваць да 2015 года. Спецбатальён будзе існаваць у складзе ўнутраных войскаў МУС.***

Як вядома, першы энергаблок Астравецкай АЭС плануецца ўвесці ў дзеянне ў 2017 годзе.

ПАЛІТКУХНЯ

## Дзмітрый УСС: Альбо лічым галасы разам, альбо акцыі грамадзянскага непадпарадкавання



Ініцыятыўная група па ўнясенні змен у Выбарчы кодэкс прыняла зварот да кіраўніка краіны, а таксама да лідараў палітычных партый і рухаў.

Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта **Дзмітрый УСС** заявіў, што сутнасць змен, якія прапануецца ўнесці ў Выбарчы кодэкс, заключаецца ў трох словах: “Лічым галасы разам”.

Дзмітрый Усс нагадаў, што двойчы — у студзені і лютым гэтага года — аргкамітэт звяртаўся да мінскіх улад па дазвол на правядзенне сходу, неабходнага для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, і кожны раз атрымліваў адмову. Цяпер у звароце на імя Аляксандра Лукашэнкі сябры ініцыятыўнай групы, у якую ўвайшлі ў асноўным сябры выбарчых штабоў Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Усса, вылучылі чатыры прапановы:

— абавязаць кіраўніцтва Мінскага гарвыканкама задаволіць заяўку на правядзенне сходу ініцыятыўнай групы грамадзян па рэалізацыі права заканадаўчай ініцыятывы;

— да 25 сакавіка 2012 года вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязняў, у тым ліку кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Андрэя Саннікава;

— выступіць з заканадаўчай ініцыятывай і на вясенняй сесіі 2012 года ўнесці рэальныя змены ў Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь, на практыцы ажыццявіўшы прынцып “Лічым галасы разам”.

Акрамя таго, Аляксандру Лукашэнку прапанавана да 30 ліпеня 2012 года сысці добраахвотна ў адстаўку і даць магчымасць правесці восеньскія выбары без кантролю-ціску за волевыяўленнем людзей.

У звароце ўказана, што рэалізацыя гэтых прапаноў дасць магчымасць цяперашняму кіраўніку краіны атрымаць гарантыю недатыкальнасці ў будучыні. Калі да 1 жніўня Лукашэнка не сыдзе ў адстаўку, то дэмакратычная супольнасць зможа выкарыстаць сваё права на акцыі грамадзянскага непадпарадкавання.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## Праблемная запазычанасць беларусаў банкам — больш за 300 мільярдаў рублёў

Нацыянальны банк Беларусі паведаміў, што на 1 лютага 2012 года праблемная запазычанасць па крэдытах, выдадзеных беларускімі банкамі фізічным асобам, склала 306,3 млрд рублёў у эквіваленце. Гэта на 0,4% больш у параўнанні з пачаткам бягучага года.

Праблемная запазычанасць насельніцтва па выдадзеных крэдытах у нацыянальнай валюце склала 100,2 млрд рублёў, праблемная запазычанасць у замежнай валюце — 206,2 млрд рублёў у эквіваленце.

## Ільготы для сельскіх абітурыентаў захавалі

Мінадукацыі вырашыла ў гэтым годзе правілы прыёму ў ВНУ і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Беларусі не змяняць, захаваць асобны конкурс для гарадскіх і сельскіх абітурыентаў, ільготы пры паступленні і г.д.

Зменены будзе толькі механізм прыёму ў ВНУ па выніках ЦТ: плануецца ўстанавіць мінімальны станоўчы бал на цэнтралізаваным тэсціраванні па ўсіх прадметах, атрымаўшы які абітурыент зможа падаваць дакументы ў прыёмную камісію вышэйшай навучальнай установы і ўдзельнічаць у конкурсе.

Паводле слоў першага намесніка міністра адукацыі Аляксандра Жука, гэтая норма будзе распрацавана Міністэрствам адукацыі да пачатку ўступнай кампаніі 2012 года.

ПРАБЛЕМА!

# Галашчок,

## або Чаму недаацэньваюцца сялянскія гаспадаркі

Многія фермеры Гомельшчыны ўвачавідкі даказалі, што маюць права не толькі на існаванне, але і на прызнанне, вартасную дзяржаўную ацэнку і падтрымку. Маючы ў сваім распараджэнні крыху больш за адзін працэнт ворыва, у 2011 годзе яны накапалі 33,7 тысячы тон бульбы, сабралі 36,5 тысячы тон агародніны з адкрытага грунту, што складае адпаведна 28,2 і 13,0 працэнта агульнаабласнога набытку.

За апошнія дзесяць гадоў збор бульбы ў фермерскіх гаспадарках павялічыўся ў 4,1 раза, гародніны яшчэ больш — у 6,6 раза.

Што характэрна, самакіруемыя гаспадары займаюцца тымі галінамі вытворчасці, якія не знаходзяць пашырэння ў былых калгасах, саўгасах, а цяпер СУПах ды КСУПах і наўрад ці з’явяцца ў бліжэйшай будучыні. У прыватнасці, Аляксандр Пікуза (Мазырскі раён) захапіўся развядзеннем страусаў, Мікалай Тачылін (Веткаўскі раён) — авечкагадоўляй, Уладзімір Богдан (Рагачоўскі раён) — развядзеннем коз, Пётр Елізараў (Нараўлянскі раён) — трусагадоўляй, Ігар Зуб (Добрушскі раён) — вырошчваннем качак, гусей, індыкоў. У вобласці ёсць смелыя самастойныя гаспадарнікі, якія адважыліся гадаваць саджанцы пладовых дрэў, культываваць часнок, кавуны, іншыя цуды для палескіх палёў і гародаў. Іх дасягненні часам проста зачароўваюць. Так фермерская гаспадарка “Яблыневы сад” (Калінкавіцкі раён), удзельнічаючы ў дзяржаўнай праграме “Пладаводства”, напрыклад, толькі за адзін год прапанавала 270 тысяч штук садовых саджанцаў розных гатункаў, што склала 89 працэнтаў абласнога задання.

Больш сціплыя дасягненні ў самастойных гаспадарнікаў, якія ў якасці спецыялізацыі выбралі жывёлагадоўлю. І зусім не таму, што яны не ўмеюць працаваць або ўзяліся за справу па прынцыпе “Не па Сеньку шапка”. Асобныя жывёлаводы-прыватнікі пацвердзілі, што яны таксама не лыкам шытыя. Фермерская гаспадарка “Рахімжан” (Хойніцкі раён) на чале з Алай Кабулавай трымае 120 дойных кароў. У мінулым годзе філіялу “Палескія сыры” ААТ “Малочныя прадукты” яна паставіла не адну сотню тон высакаякаснага малака. Поспех мог быць больш адчувальным, калі б самастойная гаспадарка мела магчымасць атрымаць прыдатныя сельгасугоддзі для пасьбы статку і нарыхтоўкі кармоў на зімовы перыяд. Да апошняга часу Кабулава пасвіла сваіх рагуль на ўгоддзях, якія замацаваны за сялянскім прыватным сектарам, а фураж на стойлавае ўтрыманне набывала ў сельгаспрадпрыемствах, якія здолелі стварыць запас яго, але неслі страты з прычыны нізкай шчыльнасці жывёлы на адзінку сельгасугоддзяў. Дарэчы, для зімовага ўтрымання кароў з-за абмежаванасці прыдатных плошчаў фермерская сям’я вымушана была ўзводзіць прымітыўны хлеў з піламатэрыялаў на сваім прысядзібным участку.

Вось якраз тут і канцэнтруецца галоўнае непаразуменне паміж вертыкаллю, дзяржаўнымі сельгаспрадпрыемствамі з аднаго боку і сялянскімі (фермерскімі) гаспадаркамі — з другога. Адзін бок просіць выдзялення дадатковай зямлі, другі не спяшаецца вырашаць гэту праблему. У значнай ступені адбываецца такое таму, што паміж двума бакамі стаіць тармазная сістэма пад назвай “райсельгасхарчы” (чытайце, вертыкальшчыкі), кіраўніцтва якіх лічыць сваім абавязкам сачыць за эканамічным станам сельгасвытворцаў выключна абагуленай сістэмы. Фермер, знаходзячыся ў апасрэдкаваным становішчы, трапляе ў своеасаблівы галашчок: ён хоча і ўмее працаваць, але ў яго бок дзьме сіберны вецер непаразумення, які не дае магчымасці выпраміцца і ўпэўнена рухацца да вызначанай мэты.

Фермеры заўважылі і больш глыбока закапаныя карані штучнага тармажэння. Справа вось у чым. Калі самастойныя ратаі зоймуць належнае месца ў вытворчасці, дык дзяржаўным кантралёрам і папіхачам давядзецца скарачаць формы ўплыву на эканоміку вёскі і набліжацца да згортвання сваёй дзейнасці шляхам перакваліфікацыі ў кансультанты. І гэта амаль што немінуча. Пасля атрымання трывалага грунту не кожны паважаючы сябе самастойны гаспадар дазволіць правяраючаму з райсельгасхарчу ці іншаму пасыльнаму кіраваць яго вытворчасцю, выбіраць метады гаспадарання. Фермер з прыхільнасцю сустрэне праверку прадстаўнікоў фінансавых органаў, адказных за стан бяспекі на вытворчасці, прыродаахоўных чыноўнікаў, але пакажа на дзверы таму, хто наважыцца павучаць яго, як і чым карміць-паіць жывёлу, калі і як араць глебу, што, калі і дзе садзіць, сеяць.

Яму прасцей і выгадней будзе заключыць дамовы з высокакласнымі айчыннымі ці замежнымі спецыялістамі, спаўна заплаціць ім за аказаныя паслугі. Парасткі такога супрацоўніцтва, між іншым, у асобных паспяхова працуючых самастойных гаспадароў ужо з’явіліся. Вось і чапляюцца службоўцы за занядбалыя вытворчыя памяшканнні як за палачкі-выручалачкі на шляху ў прывычным пасадным доўгажыхарстве ў ролі наглядальнікаў, статыстаў і вартаўнікоў калектыўна-нічыйнай сістэмы вытворчасці на зямлі.

Яшчэ ў 2008 годзе фермерская гаспадарка “Алінушка” на чале з Анатолем Чубаем звярнулася ў Хойніцкі райвыканкам з просьбай прадаць пустуючае памяшканне КСУП “Судкова” для ўтрымання статку з 89 галоў буйной рагатай жывёлы. Райвыканкам катэгарычна адмовіў, і вымалявалася тыпова-традыцыйная карціна: праз невялікі прамежак часу тое памяшканне набыло паўразбураны стан, што патрабуе непрадугледжаных расходаў на яго канчатковы дэмантаж і вываз друзу. Атрымалася па звыклай прымаўцы “Сам не гам і іншаму не дам”.

Нават сёння, праз два дзясяткі гадоў ад часу зараджэння фермерскага руху, у адным месцы пустуе і разбураецца пад уздзеяннем атмасферных з’яў і рук аматараў узбагачэння за кошт грамадскага дабра цялятнік, у другім — канюшня, у трэцім — жылы дом, школа і нават прывабны будынак прадпрыемства бытавога абслугоўвання. З-за свайго размяшчэння не ўсе такія пабудовы падыходзяць для ўтрымання жывёлы, але тыя, што знаходзяцца за межамі населеных пунктаў, у палявым раздоллі, здаецца, больш мэтазгодна і эканамічна апраўдана прадаваць за адну базавую велічыню, чым пакідаць на волю лёсу і пераўтвараць у груды аскепкаў, на дэзактывацыю якіх, паўтаруся, патрабуюцца значныя грашовыя выдаткі.

Класічнай з пункту гледжання адносін мясцовых улад да патрэб самастойных гаспадарнікаў можа паслужыць гісторыя станаўлення сялянскай гаспадаркі Міхаіла Рыгоравіча Шрубы з вёскі Хільчыцы Жыткавіцкага раёна, за якой мне давялося сачыць на працягу некалькіх гадоў. Чалавека з сялянскімі генамі, з вышэйшай адукацыяй, які прайшоў загартоўку на розных участках вытворчага і кіраўнічага характару, доўгі час абыходзілі ў надзяленні дадатковай зямлёй. Яму перакрывалася дарога да трывалага гаспадарання нават у той час, калі калгаснікі калгаса “Шлях да камунізму”, на ўгоддзях якога таленавіты чалавек атрымаў першую плошчу ворыва, заявілі аб неадольным жаданні ўсім складам уліцца ў самастойную гаспадарку. Даходзіла да таго, што калі ў Хільчыцах планавалася абмяркоўваць якое-небудзь лёсавызначальнае пытанне, дык, каб не быць сведкамі прыемных пераўтварэнняў на вёсцы, першыя асобы райвыканкама нечакана захворвалі. У рэшце рэшт мясцовыя вертыкальшчыкі ўсё-такі вымушаны былі пайсці насустрач грамадзе. Пасля аб’яднання калгаснай і асабістай уласнасці гаспадарка Міхаіла Рыгоравіча пачала даваць важкую частку агульнараённай вытворчасці асноўных відаў сельгаспрадукцыі, трывала займаць першыя месцы ў Беларусі па паказчыках работы свінагадоўчага комплексу. Пад яе юрысдыкцыяй і лагатыпам працуюць кафэ “Будзьма”, аграсяліба “Тураўскія легенды”, прадуктовы магазін, які прапаноўвае танныя мясныя вырабы, фрукты, гародніну і іншыя прадукты ўласнай вытворчасці. З якасцю прадукцыі гаспадаркі даўно знаёма насельніцтва самых буйных гарадоў Беларусі — Мінска і Гомеля.

Паўтаруся, надзею на спад галашчоку ў фермерскім руху ў пэўнай ступені дае разгляд надзённага пытання ў абласным камітэце дзяржаўнага кантролю. У першым пункце яго заключнага дакумента запісана: “Прапанаваць аблсельгасхарчу, райвыканкамам забяспечыць выкананне патрабаванняў Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 01.04.1998 г. №193 “Аб некаторых мерах па ўдасканаленні рэгулявання дзейнасці сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак” у часткі заключэння двухбаковых дамоў. І далей: прадугледзець у названых дакументах правы і абавязкі бакоў, узаемаадносіны паміж органамі выканаўчай улады і фермерскімі гаспадаркамі. За гэтымі словамі хаваецца тое, чаго даўно чакаюць фермеры, — надзяленне дадатковымі зямельнымі угоддзямі, сельгастэхнікай і абсталяваннем на роўных з дзяржаўнымі гаспадаркамі ўмовах, рэалізацыі спісанай тэхнікі і пустуючых памяшканняў з захаваннем дзеючага заканадаўства. Да выхаду менавіта на гэты шлях апошнім часам прыспешвае ўступленне асноўнага гандлёвага партнёра Беларусі ў асобе Расійскай Федэрацыі ў СГА, а таксама настойлівая неабходнасць захавання аўтэнтычнасці нашых вёсак і вёсачак з іх шматвекавым атрыбутам — любоўна дагледжанымі садамі-гародамі побач з хатамі на так званых прысядзібных участках.

На пасяджэнні праўлення грамадскага аб’яднання “Асацыяцыя фермераў Гомельскай вобласці” было агучана, што з часу ўзнікнення руху спыніла сваё існаванне амаль кожная другая самастойная гаспадарка. “Не адчайвайцеся, хлопцы! — зрабіў выснову пасля гарачых дэбатаў адзін паспяховы фермер. — Калі б у нашым становішчы апынуліся былыя калгасы, дык памінкі аб усіх іх былі адзначаны даўным-даўно і праз больш кароткі прамежак часу”. Сваё меркаванне ўдумлівы чалавек закончыў так: калектыўныя гаспадаркі на плыву трымала і трымае дзяржаўная аброць і дзяржаўныя крэдытыўліванні, і ён спадзяецца, што аблдзяржкантроль на гэты раз праводзіў праверку і слуханні не для чарговай галачкі ў плане сваёй работы, а дзеля таго, каб нарэшце спыніўся галашчок вакол фермераў і яны змаглі перакрываць хоць бы тыя страты сельгаспрадукцыі, што набягаюць з-за паскоранага скарачэння і старэння сельскага насельніцтва, згортвання асабістых гаспадарак на падворках і нават у садова-дачных кааператывах.

**Мікола ЕРМАКОЎ.**

*Гомельская вобласць.*

ПРАЕКТ

*“Нацыянальны пантэон герояў — аснова гуманітарнай бяспекі Беларусі”, — так называецца праект, над якім працуе група вядомых беларускіх гісторыкаў. Яны хочуць унесці ў грамадскі парадак дня пытанне аб Нацыянальным пантэоне герояў Беларусі, бо са старонак навучальных дапаможнікаў і папулярнай літаратуры даўно зніклі людзі-арыенціры, героі беларускага мінулага.*

*Хто трапіць у Нацыянальны пантэон герояў? Якім павінен быць механізм адбору герояў? Чые імёны абавязкова варта вярнуць у падручнікі гісторыі?*

*Сёння свой погляд на Нацыянальны пантэон спецыяльна для “Народнай Волі” выказвае вядомы навуковец* ***З.ШЫБЕКА.***

# На шляху да Пантэона герояў Беларусі



**Захар ШЫБЕКА, доктар гістарычных навук, прафесар**

Галоўнымі і важнейшымі крытэрыямі вылучэння герояў гісторыі ці станоўчых персанажаў (акцёраў) гісторыі можа быць іх уклад у эканамічны і культурны прагрэс Беларусі, у кансалідацыю беларускага грамадства (этнічную, нацыянальную, палітычную, духоўную), а таксама змаганне за захаванне і адраджэнне беларускай дзяржаўнасці і яе каштоўнасцяў. Пры гэтым не важна, якой крыві герой, дзе ён нарадзіўся і ў якой краіне змагаўся за інтарэсы беларускага народа. Ураджэнцы Беларусі, якія праславіліся за яе межамі сваімі справамі на карысць іншай дзяржавы, героямі беларускай гісторыі быць не могуць. Хоць ускосна і яны праслаўлялі Айчыну.

Некаторыя героі гісторыі, а не нашы жывыя сучаснікі, набываюць вартасць нацыянальных герояў. Вызначыць крытэрыі адбору нацыянальных герояў немагчыма. Ды і бессэнсоўна. Выбар адбываецца стыхійна і непрадказальна. Эфект кансэнсусу наступае ў выніку вялікай духоўнай працы грамадства. Нацыянальныя героі — гэта сімвалы. Яны вызначаюцца экспертамі (навукоўцамі, палітычнымі дзеячамі), але зацвярджаюцца ці не зацвярджаюцца, прымаюцца або не прымаюцца грамадствам. Праблема для беларусаў палягала толькі ў дэфіцыце часу, інтэлектуальных рэсурсаў і камунікацыйных магчымасцяў. Аднак зараз сітуацыя змянілася да лепшага.

Узнікае пытанне: ці можна лічыць нацыянальнымі героямі тых, хто жыў да эпохі фарміравання сучасных нацый? У Еўропе яна пачалася ад канца XVIII стагоддзя. **Івана і Антона Луцкевічаў**, бясспрэчна, можна лічыць нацыянальнымі героямі Беларусі. Але ці з’яўляецца такім **Францыск Скарына**? Нацыянальным героем яго можна лічыць толькі ўмоўна. Таму што ён прайшоў грамадскую кананізацыю, прызнаны нацыянальным героем сучасным грамадствам. Скарына — не нацыянальны герой для свайго часу, бо тады беларускай нацыі не існавала. Ён — нацыянальны герой у свядомасці сучаснікаў.

У адносінах да сваёй культурнай спадчыны беларусам неабходна прытрымлівацца міжнародных прынцыпаў. Усе таленты, як мясцовага, так і не мясцовага паходжання, якія працавалі на беларускіх землях, належаць да беларускай культуры. Аднак у той жа час неабходна прызнаць, што ў Беларусі ёсць таленты міжнароднага ўзроўню, такія як **Францыск Скарына, Адам Міцкевіч.** Іх творчая спадчына належыць не толькі беларусам.

Нельга пагадзіцца з савецкай традыцыяй, якая лічыць, што нацыянальным героем можа быць толькі той, хто аддаў сваё жыццё дзеля нацыі. Такая ацэнка шырока выкарыстоўвалася ў гады мінулай вайны. Крыткі беларускага нацыяналізму не знаходзяць у Беларусі нацыянальных герояў, героіку дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі імкнуцца паставіць пад сумненне, а **Кастуся Каліноўскага** адносяць да польскіх герояў. Гісторык **Аляксандр Гронскі** сцвярджае, што нацыянальным лідарам пачатку XX ст. не ўдалося знайсці нацыянальных герояў, бо іх у беларускай гісторыі не было. Аднак гэта не так. Нацыянальныя героі Беларусі проста яшчэ не былі тады кананізаваны грамадствам. Паколькі існуюць героі беларускай гісторыі, прычым спрадвечна, то беларусам і раней і зараз ёсць з каго ствараць нацыянальных герояў у масавай свядомасці людзей па прыкладзе іншых нацый. Для таго не спатрэбіцца выкарыстоўваць герояў з рускай гісторыі.

Фарміраванне пантэона герояў гісторыі і нацыянальных герояў (сімвалаў нацыі) цесна звязана з дзяржаўнай палітыкай памяці. Сучасныя кіруючыя беларускія эліты ідэалізуюць савецкую эпоху, яе сімвалы і знакі. Асабліва яскрава гэта заўважна на прыкладзе назваў гарадскіх вуліц. Ды што казаць пра вуліцы, цэлыя гарады носяць назву былых камуністычных дзеячаў (Дзяржынск, Кіраўск). У Расіі і Украіне ад патранімічнага прынцыпу ў назвах населеных пунктаў практычна адмовіліся.

Для стварэння пантэона нацыянальных герояў неабходна, на маю думку, вырашыць некалькі важнейшых задач у наступным парадку.

**1.** Правесці своеасаблівую інвентарызацыю акцёраў беларускай гісторыі. Улічыць усіх без выключэння, у тым ліку і антыгерояў. Выкінуць тых, хто не меў да яе ніякага дачынення (княгіня Вольга, Аляксандр Неўскі, Сяргей Кіраў і інш.).

**2.** Пашыраць вывучэнне і прапаганду біяграфій герояў беларускай гісторыі (гістарычную бібліяграфістыку). Выдаваць больш кніг, ствараць больш тэлеперадач, кінафільмаў.

**3.** У палітыцы памяці арыентавацца на грамадзянскую мадэль сучаснай нацыі (грамадзянскі нацыяналізм), а гэта значыць прытрымлівацца прынцыпаў поліэтнічнасці, полікультурнасці, поліканфесійнасці.

**4.** І ўжо ў ходзе гэтай працы ў згодзе улад (?), навукоўцаў і грамадскасці вылучаць з ліку герояў беларускай гісторыі нацыянальных герояў (сімвалаў нацыі). Ды падтрымліваць іх імідж, каб вылучаных герояў прыняў народ, каб іх вобраз зацвердзіўся ў грамадскай думцы.

Практычна пералічаныя задачы вырашаюцца ў выніку працы па ўшанаванні памяці пра славутых землякоў. Ва ўмовах Беларусі ініцыятарамі гэтай справы могуць выступаць грамадскія арганізацыі ў цесным кантакце з краязнаўцамі і турыстычнымі арганізацыямі. Прычым ва ўслаўленні славутых землякоў павінны ўдзельнічаць і дзяржаўныя, і недзяржаўныя структуры, апазіцыйныя і афіцыйныя.

Працэс фарміравання пантэона нацыянальных герояў Беларусі павінен ахапіць усю краіну, бо акрамя герояў гісторыі нацыянальнага маштабу існуюць героі гісторыі лакальнага маштабу. Падзел гэты, зразумела, вельмі ўмоўны. Але ён дазваляе “засяліць” Беларусь гістарычнымі персанажамі, якімі можна ганарыцца, ды, урэшце, зразумець, якія з іх заслугоўваюць агульнанацыянальнага прызнання і прэтэндуюць на званне нацыянальных герояў.

Краязнаўцы і экскурсаводы любяць хваліцца наведваннем сваіх мясцін манархамі. Больш сур’ёзнай увагі заслугоўваюць асобы, якія праслаўлялі Беларусь. Трэба пачынаць з малога. Дабівацца, каб на мясцовым, раённым узроўні вывешвалі шыльды: *“У гэтым доме жыў...”* ці *“Тут нарадзіўся...”.* Яшчэ адзін шлях — перайменаванне вуліц у гонар славутых землякоў. Можна звярнуцца да мясцовых краязнаўцаў, каб яны на падставе назапашаных матэрыялаў пісалі кніжкі пра гэтых незвычайных асоб. Ну, і самы шыкоўны ход — адкрыццё музеяў у гонар гэтых знакамітасцяў на іх радзіме. Можна звярнуцца за падтрымкай да турыстычных арганізацый, да сваякоў, радні, спадкаемцаў славутай постаці. А калі выдатная асоба — дзеяч польскай, яўрэйскай, рускай культуры, можна знайсці спонсара за мяжой, звярнуцца ў адпаведнае пасольства. Гэты крок дапаможа прыцягнуць інвестыцыі ў развіццё нашай культуры, у захаванне нашай духоўнай спадчыны. На жаль, персанальных музеяў у нас небагата. У маленькіх гарадках іх амаль не існуе. Я, вядома, не заклікаю ствараць музеі, прысвечаныя такім асобам, як Сувораў, хаця якраз такі музей і дзейнічае ў Кобрыне. Атрымліваецца, што гэта музей не нашага нацыянальнага героя, а антыгероя. Персанальных музеяў заслугоўваюць такія, да прыкладу, постаці, як гетман **Канстанцін Астрожскі** ў Косаве, **браты Луцкевічы** ў Мінску, **Вацлаў Ластоўскі** ў Глыбокім, стваральнік сучаснай версіі іўрыта **Эліэзэр Бен-Егуда** ў Лужках Шаркоўшчынскага раёна і іншыя. У пералічаных паселішчах яны нарадзіліся ці мелі да іх прамое дачыненне.

Настала пара ўшаноўваць памяць і сваіх шляхетных суайчыннікаў. Чаму б, напрыклад, не стварыць **музей роду Храптовічаў** у Шчорсах, музеі **Радзівілаў ці Сапегаў** у іх колішніх маёнтках? Такіх музеяў пакуль увогуле не існуе, бо паводле закансерванай бальшавіцкай ідэалогіі магнаты былі эксплуататарамі, а значыць, не вартыя нашай увагі. Сёння мы маем магчымасць зірнуць на гэтых людзей з іншага боку. Цяпер, калі ідзе пашырэнне рыначных адносін, прыклады паспяховай эканамічнай дзейнасці на Беларусі маюць вялікае значэнне. І таленавітыя прадпрымальнікі вартыя звання нацыянальных герояў.

Адраджэнне памяці пра знакамітых людзей, якія паходзяць з тых ці іншых мясцін, ёсць самы просты і танны спосаб выкарыстання гісторыка-культурнай спадчыны нашых малых гарадоў. Аднавіць нейкае старажытнае замчышча ці палац, храм ці нават звычайны панскі маёнтак — гэта складана і патрабуе вялікіх сродкаў.

Працэс фарміравання пантэона нацыянальных герояў Беларусі нельга ўяўляць у выглядзе механічнага адбору вартых нават па аб’ектыўных крытэрыях. Такі адбор — толькі частка агульнай працы па захаванні сваёй гісторыка-культурнай спадчыны, працы па самасцвярджэнні беларусаў як самадастатковай нацыі еўрапейскага ўзору. У ходзе яе працэс дэсаветызацыі і кансалідацыі беларускага грамадства вакол нацыянальнай дзяржавы пойдзе больш паспяхова.

ЛІСТ З НЯВОЛІ

## Мікалай АЎТУХОВІЧ: «Не станавіцеся ў шэрагі халуёў!»

Палітзняволены, былы ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, які сам прайшоў вайну ў Афганістане, звярнуўся да былых калег-”афганцаў”.

— Ліст Мікалай адправіў мне 12 лютага, але прыйшоў ён толькі ў мінулыя выхадныя, — распавядае сустаршыня аргкамітэта ветэранаў вайны ў Афганістане “Абаронцы Айчыны” Алег Волчак. — У ім Аўтуховіч і звяртаецца да воінаў-інтэрнацыяналістаў...

*“Вайна аб’яднала многіх людзей, таму што ў цяжкія хвіліны яны падстаўлялі адзін аднаму плячо і не думалі пры гэтым аб наступствах,* — напісаў Мікалай Аўтуховіч. — *Баявое братэрства заўсёды было эталонам сапраўднай мужчынскай дружбы. Хачу, каб воіны-інтэрнацыяналісты заўсёды заставаліся сапраўднымі мужыкамі. Прашу іх дзеля тых, хто не вярнуўся з той вайны, хто назаўсёды стаў інвалідам, дзеля будучыні сваіх дзяцей і ўнукаў не станавіцца ў шэрагі халуёў. Нам і так хапае плямаў на рэпутацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў. Вельмі сумна, што зараз прапагандуецца зусім іншы эталон абаронца Айчыны, калі туды ўваходзяць таксама і элементы падхалімства, пакорлівасці... Мне вельмі шкада тых, хто не прайшоў гэтае выпрабаванне. Бог ім суддзя! Я ж віншую ўсіх тых, для каго слова “гонар” — не пустое месца, а зброя сапраўднага мужчыны. Няхай Бог дае ім моцнага здароўя на доўгія гады жыцця!”*

Дарэчы, пра сваё здароўе Мікалай паведаміў вельмі коратка: маўляў, з большага ўсё ў парадку, з надыходам цеплыні яно павінна палепшыцца.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЧУЛІ?

## У Мінска могуць забраць чэмпіянат свету па хакеі?

На кангрэсе Міжнароднай федэрацыі хакея, які адбудзецца ў маі, ізноў будзе разгледжана пытанне аб тым, ці пройдзе ў 2014 годзе ў Мінску чэмпіянат свету па хакеі.

Як паведаміў шведскаму выданню Svenska Dagbladet менеджар Міжнароднай федэрацыі хакея Шымон Шэмберг, такое рашэнне прыняла днямі на сваім пасяджэнні Рада федэрацыі. Нагодай сталі няспынныя патрабаванні праваабаронцаў і сусветнай грамадскасці змяніць месца правядзення першынства. Маўляў, чэмпіянат не можа праходзіць у краіне, дзе масава парушаюцца правы чалавека.

Між тым кіраўнік федэрацыі Рэнэ Фазэль заявіў, што падрыхтоўка ў Мінску да чэмпіянату ідзе добра, ніхто не выказвае ніякіх прэтэнзій.

Шведская газета адзначае, што прымаць рашэнне ў маі будуць тыя ж асобы, якія прагаласавалі за Мінск у 2009 годзе.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## У Мінску на трэць патаннела гародніна

Такую акцыю вырашылі правесці гарадскія стабілізацыйныя фонды аптова-рознічнага прадпрыемства “Партызанскае”.З 27 лютага кошты на прадукцыю мінулагодняга ўраджаю ў крамах зніжаны амаль на 30%. Бульба каштуе 1600 рублёў за кілаграм, морква — 1900, буракі — 1350.

Гандаль па зніжаных коштах на прадукцыю “Партызанскага” ў сталіцы працягнецца да 27 сакавіка.

## Насельніцтва Беларусі — 9 мільёнаў 463 тысячы

Толькі за студзень 2012 года колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася прыкладна на 2,2 тыс., паведамілі ў Белстаце. Па даных на 1 лютага, у краіне пражывала 9 млн 463 тыс. чалавек.

У Мінску за першы месяц гэтага года колькасць насельніцтва павялічылася з 1 млн 885,1 тыс. да 1 млн 885,5 тыс., у той час як у астатніх рэгіёнах краіны гэты паказчык знізіўся.

## Падлеткі п’янымі селі за руль

### Кіроўца — у рэанімацыі

Гэты дзікі выпадак здарыўся ў Мінску ўвечары 25 лютага. Хлопцы ехалі па вуліцы Каменнагорскай, прычым на чужой машыне. За рулём “Мерседэс Бэнц-190” знаходзіўся юнак 1995 года нараджэння. Ён не справіўся з кіраваннем і заехаў у гурбу снегу, а затым урэзаўся ў часовы дарожны знак.

У выніку кіроўца патрапіў у рэанімацыю з чэрапна-мазгавой траўмай, а пасажыр 1995 года нараджэння быў шпіталізаваны з пераломам носа.

У ДАІ адзначылі, што кампанія каталася на машыне, якую юнакоў папрасілі адрамантаваць трэцця асобы. Усе падлеткі знаходзіліся ў стане алкагольнага ап’янення.

СКАНДАЛ

# Как из Дмитрия Баранова хотят сделать козла отпущения

*Почему продюсер “ЕвроФеста” Дмитрий Баранов решил подменить результаты голосования? Зачем группа “Лайтсаунд” сказала спасибо А.Лукашенко, который перед ними даже не извинился? И чем парни из “Лайтсаунда” обидели председателя совета директоров ОАО “Амкодор” Александра Шакутина?*

*Об этом “Народной Воле” рассказал Юрий Карякин, директор группы, которая будет представлять Беларусь на конкурсе “Евровидение” в Баку.*

## Юрий КАРЯКИН: «Все это напоминает высококлассный пиар-ход ценой в миллионы долларов»



**— Юрий, в интернете сейчас обсуждают “подобострастное спасибо”, которое группа “Лайтсаунд” сказала президенту за то, что он восстановил справедливость и вернул вам победу на “ЕвроФесте”. Пишут, что из настоящих рокеров вы превратились... Ну как бы это помягче выразиться... в дешевую попсу.**

— Наше общество состоит из большого количества людей, и у каждого из них — свое представление о жизни, справедливости, обо всем. В данном случае, я считаю, произошло уникальное явление. Мы за эти дни повидались со многими независимыми музыкантами, исполнителями, они как будто воспряли духом. Мы просто настолько привыкли к тому, что все решают деньги, секс и связи, что даже не верится, что что-то может решиться по справедливости. И то, что президент при всей его занятости и проблемах гораздо более высокого уровня все же нашел время, чтобы восстановить истину, — честь ему и хвала. Я считаю, что это событие даже не культурное, а политическое. Вот так рождается гражданское общество — когда люди понимают, что реально могут на что-то влиять. И я благодарен всем тем, кто нас поддерживал.

Я открыто могу сказать, что никогда не относился к электорату Лукашенко. И не был его сторонником. Но после этого случая даже многие из моих друзей, которые также относились к нему критически, стали смотреть на него немного по-другому.

Если люди считают, что мы были рокерами, а теперь стали дешевой попсой, оказались от кого-то зависимыми, то спешу разочаровать: никогда этого не будет! Никогда группа “Лайтсаунд” не будет ни под чьей пятой! Я сам по натуре человек независимый, всего в этой жизни добился сам. Сражался, если надо было, — не стеснялся ходить по судам, отстаивал свое мнение.

Сегодня многие убедились, что и в Беларуси на “Евровидение”, оказывается, можно попасть без блата. И даже вопреки административному ресурсу. Это, конечно, чудо для нашей страны...

Теперь перед нами цель — достойно представить свою страну на этом конкурсе. Я сам спортсмен и знаю, что такое борьба за победу...

**— Александр Шакутин, как я поняла, обижен на вас за какие-то высказывания в прессе. Вы с ним случайно не встречались после совещания у президента?**

— Шакутин, если честно, удивил меня, когда перед президентом стал говорить о том, что ребята якобы обливали его грязью... Неприятно все это. Тем более что ребята ни в одном интервью, ни в одном посте в интернете ничего плохого в его адрес не сказали. И когда наши фанаты начали рвать и метать, пытаться что-то предпринимать, Дима, наоборот, клич пустил в интернете: ни в коем случае не допускать никаких оскорбительных действий!

Мы всё понимаем, в том числе и состояние Алены Ланской. На мой взгляд, она получила то, что заслужила. Но это не значит, что теперь нужно скатываться до оскорблений и унижений.

Шакутин, на мой взгляд, странную позицию занял. Но для того, чтобы его в чем-то переубедить или понять, нужно с ним встретиться и все выяснить. А ребята, я считаю, молодцы — выступили так, что на их защиту поднялась общественность.

**— А как вам кажется, почему вдруг Дмитрий Баранов дал команду поменять результаты голосования?**

— Это вопрос, на который у меня нет ответа. Но я знаю, что в той бюрократической системе, в которой он работает, такого просто так не бывает. Чтобы человек его уровня взял на себя ответственность и сам решил подменить результаты голосования...

**— Сейчас почему-то многие жалеют Баранова: мол, сделали парня крайним. Но если верить словам официальных чиновников, человек сознательно пошел на преступление — из корысти или из чувства личной симпатии подтасовал результаты голосования. И еще мне не ясно, почему перед заслуженной артисткой Ланской Лукашенко всячески расшаркивался и извинялся, а перед группой “Лайтсаунд”, у которой украли победу, нет.**

— Меня тоже удивило, что президент сказал: перед Аленой нужно извиниться, потому что она пострадала. А мы-то что? У нас просто оторвали кусок жизни. Мы прекрасно понимали, что при худшем исходе этой закулисной войны нам, возможно, придется уехать из страны. Но извинились перед Ланской, а не перед нами. Впрочем, нас вполне устраивает, что нам вернули победу. Хотя, конечно, какая-то недосказанность осталась.

Самое интересное, что слова нашей песни “Мы герои” — как будто про ту ситуацию, в которую мы попали. Я уже смеюсь: вся эта история с “ЕвроФестом” напоминает высококлассный пиар-ход ценой в миллионы долларов. И если бы я был пиарщиком, то этот сценарий утвердил бы как крайне продуктивный.

**— Кстати, о песне. На “Евровидение” с ней поедете или замените?**

— Эту песню поддержали сотни тысяч людей, зачем ее менять? Мы будем раскручивать ее как гимн того, что произошло. Единственное, будут какие-то изменения в аранжировке, может быть, в манере исполнения. А так больше ничего менять не будем.



**Примерно неделю назад Алена Ланская на своей странице в социальной сети "Фейсбук" выложила фото, на котором она запечатлена вместе с солистом группы "Лайтсаунд" Дмитрием Карякиным.**

ВОПРОСЫ В ЛОБ

### Александр ТИХАНОВИЧ: «Ни перед кем не собираюсь оправдываться...»



После скандала с “ЕвроФестом” злые языки активно заговорили о том, что в фальсификациях результатов голосования виноват народный артист Беларуси **Александр Тиханович**, который не первый год уже занимается отбором участников на “Евровидение”. На сей раз Тиханович был одним из продюсеров “ЕвроФеста”. Мы не стали ходить вокруг да около, а напрямую спросили у Александра Григорьевича, участвовал ли он в распиле денег, выделенных на отборочный тур “Евровидения”, и отдавал ли команду поменять результаты голосования.

— *Меня не спрашивали, виноват я или не виноват, потому что никто не ставит под сомнение, что я не виноват,* — ответил Тиханович “Народной Воле”. — *А говорить могут все что угодно. Меня эти разговоры мало интересуют: сколько людей, столько мнений. Поэтому я ни перед кем оправдываться не собираюсь. К тому же мне не предъявляли никаких обвинений...*

### Александр ШАКУТИН комментариев не дает



Как выяснилось, член Совета Республики **Александр Шакутин** имеет самое непосредственное отношение к “ЕвроФесту” — оказывает спонсорскую помощь.

В свое время в память о своей дочери Александр Шакутин создал продюсерский центр “Спамаш”, одной из воспитанниц которого является и **Алена Ланская**. Людская молва судачила о романе Алены Ланской и Александра Шакутина, однако ни он, ни молодая певица эти слухи не комментировали.

Был ли у Шакутина интерес, чтобы в Баку поехала именно Ланская?

“Народная Воля” хотела услышать ответ на этот вопрос из уст самого Александра Шакутина, заместителя председателя Постоянной комиссии Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь по международным делам и национальной безопасности. Однако он через секретаря передал, что комментариев не дает, и порекомендовал все вопросы, связанные с “ЕвроФестом”, адресовать Белтелерадиокомпании.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Дмитрий БАРАНОВ: «Я не давал команду подменить результаты голосования»



*Кто из Баранова сделал козла отпущения? Уволили ли его с работы? И что говорит в свою защиту сам продюсер “ЕвроФеста” Дмитрий Баранов, на которого, как следует из выступления первого замглавы Администрации президента Александра Радькова, свалили всю вину за подтасовку результатов голосования?*

*“Комиссия по всей цепочке провела проверку для восстановления истинной картины, — приводит слова Радькова пресс-служба президента. — Установлено, что результаты голосования жюри сфальсифицированы не были. Все наши опросы показали, что давления они не испытывали, — проинформировал он, отметив, что по итогам голосования членов жюри на первом месте была группа Litesound, на втором — Алена Ланская. После окончания работы жюри в течение 15 минут шло голосование телезрителей. Были ответственные лица, прежде всего работники “Белтелерадиокомпании”, которые, как системные администраторы, отвечали за подсчет голосов и сидели за компьютерами. Это было в передвижной телестанции. Там присутствовало 7 человек. Ход голосования обсуждался, был открыт. Поэтому все видели (и это подтверждают присутствовавшие), что по звонкам телезрителей и SMS-сообщениям группа Litesound примерно на 2 тысячи обходила Алену Ланскую. Когда после подведения итогов в эту станцию пришел продюсер Дмитрий Баранов, ему доложили истинную картину. Он приказал, чтобы дали результаты, в соответствии с которыми победителем была бы Алена Ланская. Эти результаты были переданы в счетную комиссию и просуммированы”.*

*Вот что Баранов сказал вчера “Народной Воле”.*

— Ну что я могу сказать? Я со своей командой старался сделать отличное, классное шоу. И если о нем сейчас все говорят, наверное, получилось. А все остальное — это какой-то бред...

**— Сегодня всех волнует один вопрос: почему вы в этой ситуации крайний? Дима, может, вы влюблены в Ланскую и поэтому дали команду подменить результаты, а?**

— Я не отдавал команды подменить результаты голосования.

**— А почему тогда ваше имя сейчас полощут где только можно?**

— Для меня это тоже актуальный вопрос.

**— Вас уже уволили с работы?**

— Пока нет.

**— Как думаете, будет возбуждено уголовное дело по “ЕвроФесту”?**

— Мне сложно об этом сказать, понимаете, я всего лишь продюсер, который делал свое дело...

**— На все вопросы вы отвечаете с завидным спокойствием. Можно позавидовать вашей выдержке...**

— Спасибо, стараюсь...

ДЕТАЛИ

## В отношении кого возбудили уголовное дело за «ЕвроФест»?

А.Лукашенко обмолвился, что кое-кто, возможно, будет давать объяснения по поводу “ЕвроФеста” в рамках уголовного дела.

*“Как меня информируют уже две группы, которые по моему поручению этим занимались, результаты финала конкурса оказались подтасованными,* — сказал Лукашенко во время совещания по “ЕвроФесту”. — *Не знаю, зачем и почему. Это мы разберемся, если не здесь, то в рамках уголовного дела. Прощения никому не будет. Поэтому я предлагаю вам не темнить”.*

“Народная Воля” попыталась выяснить, в отношении кого возбуждено уголовное дело.

*“Мы пока никаких комментариев по этому поводу не даем”,* — ответили в Следственном комитете.

Странная ситуация, согласитесь. На самом высоком уровне вроде бы идет разбирательство, а в Следственном комитете не могут сообщить, возбуждено ли уголовное дело! Может, покричат-покричат, да и успокоятся? Одних уволят, других пожурят и на этом остановятся?..

**Марина КОКТЫШ.**

